Пролетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ВОЛЬНАЯ ПРАЦА

Орган Беластоцкага абкома і гаркома КП(б)Б і абласнога выканаўчага камітэта

Год выдання другі

№ 244 (313) НЯДЗЕЛЯ 20 КАСТРЫЧНІКА 1940 г.

Цана 10 капеек.

## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:

ПЕРШАЯ СТАРОНКА

Адказныя задачы нізавога друку—перадавы артыкул.

**Шырока разгарнуць масавую агітацыйна-палітычную работу ва ўсіх слаях насельніцтва.**

Задачы профсаюзаў у стварэнні Дзяржаўных Працоўных Рэзерваў.

**У Прэзідыуме ВЦСПС.**

ДРУГАЯ СТАРОНКА

**ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ: В. Дзям'янаў.** —На справаздачным сходзе ў трэсце будматэрыялаў. **А. Стасенка.** — Ускрыты сур'ёзныя недахопы.

**І. Давыдаў.**—Абласная нарада фінансавага актыва.

**Г. Голанд.**—Новае жыццё. **І. Малахаў.**—У калгасе імені 17 верасня.

ТРЭЦЯЯ СТАРОНКА

**Пастанова Беластоцкага раённага выканаўчага камітэта. Аб утварэнні выбарчых акруг па выбарах у раённы Совет дэпутатаў працоўных.**

**БІБЛІЯГРАФІЯ: Т. Лясовіч.**—Песні надзей і гневу.

ЧАЦВЕРТАЯ СТАРОНКА

**Англа-германская вайна.**

# АДКАЗНЫЯ ЗАДАЧЫ НІЗАВОГА ДРУКУ

Вялікая і адказная роля насценнага друку. Фабрычна - заводскія, школьныя, калгасныя насценгазеты з'яўляюцца калектыўнымі агітатарамі і арганізатарамі, яны нясуць у масы працоўных словы большэвіцкай праўды.

Рабочыя і сяляне Заходняй Беларусі ва ўмовах капіталістычна-памешчыцкага прыгнёту не маглі свабодна выказваць свае думкі і спадзяванні. Прадажныя буржуазныя газеты штодзённа ашуквалі працоўных, прападносячы ім усякія небыліцы, разбівалі адзінства працоўных, распальвалі нацыянальную варожасць і нянавісць.

Толькі пры совецкай уладзе, уладзе рабочых і сялян, працоўныя маюць свой большэвіцкі друк, з'яўляюцца самі актыўнымі ўдзельнікамі ў ім.

Арганізатары комуністычнай партыі большэвікоў Ленін і Сталін стварылі вялікую прэсу комунізма, якая заўсёды ўяўляе сабой вастрэйшую зброю ў барацьбе за пабудову соцыялістычнага грамадства.

На прадпрыемствах совецкага Беластока існуе шырокая сетка насценгазет. Няма ні адной фабрыкі, завода, установы, дзе-б не выдавалася насценная газета. Насценгазеты правялі нямалую работу ў час выбараў у Вярхоўныя Советы СССР і БССР, папулярызуючы кандыдатаў народа, заклікаючы працоўных актыўна ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі, галасаваць за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных. Насценгазеты многіх прадпрыемстваў сталі арганізатарамі соцыялістычнага спаборніцтва. Да такіх газет належыць насценгазета 3-га тэкстыльнага камбіната «Трыбуна стаханаўца». Звыш 50 рабкораў удзельнічае ў рабоце газеты. «Трыбуна стаханаўца» правільна канцэнтрыруе ўвагу на барацьбе за павышэнне дысцыпліны і прадукцыйнасці працы.

«Плюшавік»—цэхавая насценгазета фарбавальна-апрэтурнага цэха плюшавай фабрыкі,—у невялікіх, але змястоўных артыкулах выкрывае лодыраў, прагульшчыкаў, папулярызуе перадавікоў вытворчасці, змагаецца з бракаробамі. Прыкладам жывой і багатай насценгазеты, умела звязваючай вытворчыя і палітычныя пытанні, з'яўляецца насценгазета арцелі «Кааправмонт»—«Чырвоны шавец».

Асабліва цяпер, калі пачалася важнейшая палітычная кампанія—выбары ў мясцовыя Советы — насценгазеты павінны разгарнуць энергічную дзейнасць, павысіць якасць сваёй работы.

Большэвіцкая агітацыя на старонках нізавога друку павінна быць баявой, наступальнай і даходлівай, гаварыць з працоўнымі на іх роднай мове.

Якраз гэтага яшчэ не дасягаюць насценгазеты электрастанцыі «Энергетык» і цэхавая газета «Плюшавік». Большасць матэрыялаў у гэтых газетах напісана на рускай мове, у той час, калі асноўная маса рабочых гэтых прадпрыемстваў гаворыць на польскай мове.

Нельга зараз мірыцца з тым, што вялікая колькасць насценгазет выходзіць рэдка, звычайна адзін раз у месяц. Пярвічныя партыйныя арганізацыі раду прадпрыемстваў яшчэ недастаткова кіруюць работай насценгазет.

Цяпер, калі мы ўступілі ў кампанію выбараў у мясцовыя Советы і знаходзімся напярэдадні XXIII гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі, цяпер, калі праводзіцца і справаздачна-выбарчая кампанія ў профсаюзах,—выхад насценных газет павінен быць больш часты. Роля нізавога друку ва ўсіх гэтых кампаніях велізарная.

Задача заключаецца ў тым, каб шырока і па-большэвіцку раз'ясніць значэнне выбараў, ролю Советаў, як органаў дыктатуры рабочага класа. Канкрэтныя факты і лічбы, якія ілюстроўваюць дасягненні данага прадпрыемства, калгаса, вёскі, школы на фоне дасягненняў совецкага Беластока і ўсёй нашай вобласці, будуць мець вялікую мабілізацыйную сілу. Выраслі сотні людзей, якія актыўна ўдзельнічаюць у соцыялістычным будаўніцтве, у грамадскім жыцці і ў кіраўніцтве дзяржавай. Аб іх рабоце павінен гаварыць нізавы друк жывымі прыкладамі ілюстрыраваць рост соцыялістычнага будаўніцтва, сталінскую дружбу народаў пад жыватворчымі праменнямі Сталінскай Канстытуцыі.

На старонках насценгазет рабочыя і сяляне раскажуць, як над імі глуміліся антынародныя азонаўска-эндэцкія гарадскія рады-магістраты і войты, раскажуць аб жудасным тэроры буржуазных улад, накіраваных супроць працоўных горада і вёскі, асабліва ў час выбарчых кампаній, выкрыюць процінародную дзейнасць ППС, Бунда і іншых нацыяналістычных і буржуазных партый.

Некаторыя насценгазеты праяўляюць ужо патрэбную аператыўнасць. Так, насценгазета Беластоцкага педагагічнага інстытута ўключылася ў выбарчую кампанію і выходзіць праз кожныя 5 дзён. Такую аператыўнасць павінны праявіць усе насценгазеты, мабілізуючы сваіх чытачоў на актыўны ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах, як вылучэнне кандыдатаў у выбарчыя камісіі, вылучэнне кандыдатаў у мясцовыя Советы, змагацца за 100-процантны ўдзел усіх членаў калектыва ў выбарах і ў галасаванні за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных.

Падрыхтоўка да гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі, разгортванне глыбокай палітычнай работы ў масах павінны цесна спалучацца з барацьбой за далейшае павышэнне дысцыпліны і прадукцыйнасці працы. На ўсіх прадпрыемствах горада і вобласці рабочыя ўзялі на сябе абавязацельствы сустрэць XXIII гадавіну Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі і дзень выбараў у мясцовыя Советы новымі вытворчымі перамогамі.

Справа чэсці рэдкалегій насценных газет, рабкораў быць большэвіцкімі арганізатарамі гэтага народнага руху, сістэматычна правяраць выкананне соцыялістычных абавязацельстваў.

Пярвічныя партыйныя арганізацыі накіроўваюць работу нізавога друку. Сваёй непасрэднай дапамогай, штодзённым кіраўніцтвам партарганізацыі павінны забяспечыць, каб нізавы друк у кампаніі па выбарах у мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных стаў большэвіцкім, калектыўным агітатарам і арганізатарам перамогі сталінскага блока комуністаў і беспартыйных. Насценгазеты дасягнуць сваёй мэты, калі яны ў сваю работу ўцягнуць найшырэйшыя масы рабочых, сялян і працоўнай інтэлігенцыі.

—«о»—

## ВЫЛУЧЫЛІ КАНДЫДАТАЎ У ЧЛЕНЫ АКРУГОВЫХ ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЙ

ГРОДНА. **(Па тэлефону).** Памяшканне сталовай табачнай фабрыкі ўпрыгожана па-святочнаму. Сабралася больш 600 чалавек на сход, прысвечаны вылучэнню кандыдатаў у акруговыя камісіі па выбарах у абласны Совет дэпутатаў працоўных. Інфармацыю аб задачах прадстаячых выбараў і ролі выбарчых камісій зрабіў дырэктар фабрыкі тав. Чарнаброўкін.

Слова атрымлівае рабочы тав. Ражкоў.

— Кандыдатам у акруговую выбарчую камісію, — гаворыць ён, — я прапаную Тадэуша Вікенцьевіча Борса. Ён працуе ў нас начальнікам транспартнага аддзела. Транспарт знаходзіцца ва ўзорным становішчы.

Пры галасаванні кандыдатура тав. Борса праходзіць аднагалосна. Аднадушна таксама вылучаюцца членамі акруговых камісій тт. Альперт—стаяр-стаханавец, Осіпава—загадчык сталовай.

Вялікія спрэчкі і разнагалоссі выклікала кандыдатура тав. Мізгер, загадчыка падсобнай гаспадаркі. Супроць яе выступіла старая работніца фабрыкі тав. Пальніцкая, рабочы тав. Школьнік і іншыя.

Яўна было, што кандыдатура яе не падыходзячая, але тав. Чарнаброўкін выступіў у абарону. У другім галасаванні яе ўдалося ўцягнуць у кандыдаты. Іменна ўцягнуць—таму, што за тав. Мізгер галасавала 120 чалавек, супроць — 80. Такім чынам больш 400 чалавек устрымаліся ад галасавання.

Абласному выканаўчаму камітэту неабходна прыгледзецца да гэтай кандыдатуры.

**Г. Лупсякоў.**

## *Шырока разгарнуць масавую агітацыйна-палітычную работу сярод ўсіх слаёў насельніцтва!*

## ЛЕПШЫХ ЛЮДЗЕЙ — У ВЫБАРЧЫЯ КАМІСІІ

У клубе 2-га тэкстыльнага камбіната адбыўся сход рабочых і работніц па вылучэнню прадстаўнікоў у гарадскую выбарчую камісію па выбарах у гарадскі Совет дэпутатаў працоўных.

З прамовай выступіў дырэктар камбіната тав. Янчук, які растлумачыў прысутным задачы выбарчай кампаніі і заклікаў паслаць у камісію тых людзей, якія забяспечаць правядзенне выбараў на аснове прынцыпаў Сталінскай Канстытуцыі.

Тав. Сакольскі прапануе вылучыць у гарадскую выбарчую камісію тав. Давідзюк Марыю Аляксандраўну, работніцу-стаханаўку апаратна-прадзільнага цэха.

Выступаючыя работніцы Майсюк і Спыхала, рабочы Слуцкі і старшыня фабкома тав. Арлоўскі падтрымалі прапанову аб вылучэнні прадстаўніком у гарадскую выбарчую камісію ад рабочых 2-га камбіната тав. Давідзюк.

Тав. Давідзюк на прадпрыемстве працуе каля 9 год. У мінулым, пры ўладзе польскіх паноў, яна прымала ўдзел ва ўсіх забастоўках. За год совецкай улады тав. Давідзюк стала адной з лепшых профсаюзных актывістак. Цэх выбраў яе дэлегаткай соцыяльнага страхавання. Яна з'яўляецца душой усёй работы па соцыяльнаму страхаванню на камбінаце. Тав. Давідзюк прымала актыўны ўдзел у выбарчай кампаніі па выбарах у Вярхоўныя Советы СССР і БССР.

Рабочыя і служачыя 2-га камбіната аднадушна вылучылі тав. Давідзюк Марыю Аляксандраўну сваім прадстаўніком у гарадскую камісію па выбарах у гарадскі Совет дэпутатаў працоўных.

**Н. Марковіч.**



Стаханаўка-прадзільшчыца 1-га беластоцкага тэкстыльнага камбіната С. П. Жыўлюк, вылучаная калектывам камбіната ў гарадскую выбарчую камісію. Фота А. Сапіра.

## Перадвыбарчая работа

У Ваўкавыскім раёне разгарнулася работа па падрыхтоўцы да выбараў у мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных. Раён разбіт на 60 выбарчых акруг па выбарах у раённы совет, па выбарах у гарадскі і сельскія советы створана 54 акругі. Вызначаюцца цэнтры акруг, участкаў і памяшканні для акруговых і ўчастковых выбарчых камісій.

На прадпрыемствах, ва ўстановах, у калгасах і вёсках праводзяцца сходы па вылучэнню кандыдатаў у члены акруговых камісій па выбарах у абласны, раённы, гарадскі і сельскія советы.

Сход калгаса імені Молатава ў члены акруговай камісіі па выбарах у абласны совет вылучыў лепшага калгасніка-актывіста Паўла Пятровіча Улановіча. Сход калгаса «Ударнік» вылучыў у састаў акруговай камісіі па выбарах у абласны совет кандыдатуру калгасніцы Надзежды Міхайлоўскай; сяляне вёскі Андрэеўка вылучылі актывістку Марыю Сцяпанаўну Сілончык. На сходзе вёскі Гнёзды ў састаў акруговай камісіі па выбарах у абласны совет вылучана сялянка Ольга Серык.

18 кастрычніка ў раёне закончыліся сходы па вылучэнню кандыдатур у састаў акруговых выбарчых камісій.

**Д. Казлоў.**

## Закончана вылучэнне прадстаўнікоў у гарадскую камісію

На прадпрыемствах і ўстановах горада Беластока закончылася вылучэнне прадстаўнікоў у гарадскую выбарчую камісію па выбарах у гарадскі совет дэпутатаў працоўных.

Калектыў супрацоўнікаў першай совецкай паліклінікі паслаў у гарадскую выбарчую камісію лепшага ўрача, члена мясцовага камітэта профсаюза Уладзіміра Якаўлевіча Бомаша.

Ад арганізацыі Асоавіяхіма прадстаўніком у гарадскую выбарчую камісію вылучана комсамолка-стаханаўка 6-га тэкстыльнага камбіната Рахіль Беркаўна Беластоцкая. Тав. Беластоцкая прымае актыўны ўдзел у абароннай рабоце, з'яўляецца добрай работніцай, карыстаецца аўтарытэтам і павагай сярод рабочых.

Ад работнікаў Дзяржбанка вылучан Грыгорый Сцяпанавіч Мельнікаў. Тав. Мельнікаў па нацыянальнасці паляк, працуе крэдытным інспектарам абласной канторы Дзяржбанка.

Лепшая настаўніца, маючая мнагагадовы педагагічны стаж работы, І. М. Жалендзеўская вылучана ў гарадскую выбарчую камісію прадстаўніком ад работнікаў пачатковых і сярэдніх школ горада.

Усяго ў састаў Беластоцкай гарадской выбарчай камісіі па выбарах у гарадскі Совет дэпутатаў працоўных вылучана 13 чалавек.

* * *

На вобласці закончылася вылучэнне прадстаўнікоў ад рабочых, сялян і інтэлігенцыі ў састаў раённых выбарчых камісій па выбарах у раённыя советы дэпутатаў працоўных. Усяго вылучана 185 чалавек.

## Тры тысячы агітатараў

Беластоцкая гарадская партыйная арганізацыя разгарнула вялікую работу па падрыхтоўцы да правядзення выбараў у мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных. Аддзел прапаганды і агітацыі і Дом партыйнай асветы распрацавалі канкрэтныя мерапрыемствы па наладжванню сярод шырокіх працоўных мас агітацыйнай работы. Праведзены нарады сакратароў пярвічных партыйных і комсамольскіх арганізацый, членаў рэдкалегій насценных газет і культработнікаў прадпрыемстваў і ўстаноў, а таксама профсаюзнага актыва горада.

З ліку перадавых людзей прадпрыемстваў і ўстаноў пярвічныя партарганізацыі вылучылі і зацвердзілі сотні новых агітатараў. Для агітатараў, упершыню прыцягваемых да агітацыйнай работы, а таксама для павышэння ідэйна-палітычнага ўзроўню старых агітатараў, арганізаваны трохдзённыя курсы без адрыву ад вытворчасці. Курсы пачалі работу пры Доме партасветы 19 кастрычніка. У некалькі прыёмаў праз курсы будзе прапушчана каля тысячы агітатараў. Апрача таго пры буйнейшых прадпрыемствах і ўстановах, як 1, 2, 3, 5 тэкстыльныя камбінаты, кантора сувязі і іншыя, для агітатараў арганізуюцца трохдзённыя семінары.

Для лепшай пастаноўкі агітацыйнай работы ў масах выбаршчыкаў пярвічныя партыйныя арганізацыі створаны пры іх агіткалектывы замацоўваюцца за выбарчымі ўчасткамі.

Вялікая ўвага ўдзяляецца арганізацыі агітацыйнай работы на роднай мове насельніцтва. Улічваючы наяўнасць у горадзе насельніцтва польскай нацыянальнасці, гарком партыі і пярвічныя партарганізацыі падабралі каля 500 чалавек агітатараў, якія будуць весці агітацыйную работу на польскай мове.

Усяго за перыяд выбарчай кампаніі ў Беластоку будзе працаваць каля трох тысяч агітатараў.

У мэтах папулярызацыі лепшых форм і метадаў агітацыйнай работы і паляпшэння агітработы, гарадскі камітэт партыі праводзіць 21 кастрычніка сход агітатараў горада. 22 кастрычніка будзе праведзена нарада кіраўнікоў агіткалектываў. Намячаецца таксама правядзенне ў бліжэйшыя дні агульнагарадскога схода інтэлігенцыі.

У Доме партыйнай асветы будзе прачытан цыкл лекцый і дакладаў па пытаннях выбарчай кампаніі. Тутжа абсталёўваецца выстаўка дасягненняў горада Беластока і яго прамысловасці за год совецкай улады. З першых дзён выбарчай кампаніі пры Доме партасветы пачаў працаваць стол даведак і кансультацый па пытаннях выбараў. Такія сталы даведак арганізуюцца пры тэатрах і кіно.

**В. Яўскі.**

### ПРАДСТАЎНІК У САСТАЎ ГАРАДСКОЙ КАМІСІІ

Сход рабочых першай змены 6-га тэкстыльнага камбіната вылучыў сваім прадстаўніком у гарадскую выбарчую камісію па выбарах дэпутатаў у гарадскі совет старога кадравага рабочага-стаханаўца Пятра Іванавіча Сакольскага.

На сходзе з прамовай выступіў рабочы тав. Альшэўскі, які ахарактарызаваў тав. Сакольскага як сумленнага, лепшага рабочага камбіната.

# Задачы профсаюзаў у стварэнні дзяржаўных працоўных рэзерваў

## *У ПРЭЗІДЫУМЕ ВЦСПС*

12 кастрычніка Прэзідыум ВЦСПС прыняў пастанову аб рабоце профсаюзных органаў у сувязі з Указам Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР «Аб Дзяржаўных Працоўных Рэзервах СССР». У ёй гаворыцца, што Ўказ Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР «Аб Дзяржаўных Працоўных Рэзервах СССР» і пастанова Соўнаркома Саюза ССР «Аб прызыве гарадской і калгаснай моладзі ў Рамесленыя вучылішчы, Чыгуначныя Вучылішчы і школы Фабрычна-Заводскага Абучэння» маюць важнейшае народнагаспадарчае значэнне для паспяховага развіцця соцыялістычнай прамысловасці, умацавання абароннай магутнасці краіны і далейшага росту кваліфікаваных кадраў рабочага класа».

Прэзідыум ВЦСПС лічыць, што аказанне паўсядзённай дапамогі органам упраўлення працоўных рэзерваў у хуткім і дакладным ажыццяўленні гэтых рашэнняў з'яўляецца адной з важнейшых задач профсаюзных органаў.

Профсаюзныя арганізацыі павінны раз'ясняць рабочым, служачым і членам іх сем'яў значэнне арганізаванай падрыхтоўкі новых рабочых з гарадской і калгаснай моладзі і стварэння неабходных працоўных рэзерваў для прамысловасці. Асаблівую ўвагу пры гэтым неабходна звярнуць на правядзенне растлумачальнай работы сярод навучаючыхся школ ФЗВ, няпоўных сярэдніх і сярэдніх школ праз дзіцячыя клубы і пакоі школьнікаў пры клубах і палацах культуры.

Прэзідыум ВЦСПС абавязаў профсаюзныя арганізацыі выдзеліць сваіх адказных прадстаўнікоў у гарадскія і раённыя камісіі па правядзенню прызыву моладзі ў вучылішчы і школы, аказаць дапамогу прызыўным камісіям у арганізацыі прытоку заяў ад моладзі, якая жадае пайсці на вучобу, у правядзенні прызыву (мабілізацыі) і ў ажыццяўленні кантролю за своечасовым ад'ездам прынятых на вытворчае абучэнне.

Цэнтральныя камітэты профсаюзаў рабочых чыгунак павінны намеціць мерапрыемствы, якія забяспечылі-б прыём моладзі ў чыгуначныя вучылішчы, асабліва ў сувязі з прадастаўленнем дзецям работнікаў транспарта пераважнага права паступлення ў гэтыя Вучылішчы.

На Цэнтральныя камітэты профсаюзаў работнікаў медсанпрацы ўскладзен абавязак дапамагаць прызыўным камісіям у арганізацыі медыцынскага агляду гарадской і калгаснай моладзі, адбіраемай для вучобы ў вучылішчы і школы.

Велізарнай важнасці задачы стаяць перад профсаюзамі, якія маюць свае арганізацыі на сяле. Акрамя растлумачальнай работы, яны абавязаны дапамагчы раённым Советам дэпутатаў працоўных і праўленням калгасаў падабраць моладзь у вучылішчы і школы, прасачыць за своечасовым накіраваннем навучаючыхся ў рамесленыя і чыгуначныя вучылішчы і школы фабрычна-заводскага абучэння.

Прэзідыум ВЦСПС прапанаваў профсаюзным арганізацыям аказваць усямерную дапамогу мясцовым органам Галоўнага ўпраўлення працоўных рэзерваў пры СНК СССР у падборы кадраў для мясцовых упраўленняў, дырэктараў вучылішч і школ, загадчыкаў навукова-вытворчай часткай, старшых майстраў і майстраў па абучэнню прафесіі, камендантаў інтэрнатаў і выхавацеляў па ваенна-фізкультурнай падрыхтоўцы. Практычнае садзейнічанне павінна быць аказана ў падрыхтоўцы вытворчай базы, інтэрнатаў і вучэбных памяшканняў, а таксама ў арганізацыі грамадскага харчавання навучаючыхся.

Профсаюзныя арганізацыі абавязаны шырока разгарнуць культурна-масавую і палітыка-выхаваўчую работу сярод навучаючыхся вучылішчаў і школ. З гэтай мэтай трэба выкарыстаць клубы, чырвоныя куткі, палацы культуры, бібліятэкі і стадыёны.

Мясцовыя камітэты работнікаў вучылішч і школ павінны разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва за высокую якасць вучобы, лепшае абслугоўванне навучаючыхся.

(ТАСС).

